# ПРАЦАЎНІК АСЬВЕТЫ

Дадатак да газэты „САВЕЦКАЯ БЕЛАРУСЬ“

№ 8 31 жніўня 1928 г. № 8

ЗЬМЕСТ



# Школа—на шлях выхаваньня новага чалавека.*)

За апошнія часы ў нашых школах вызначыўся цэлы шэраг зьявішчаў, якія ня могуць з нашага боку ня выклікаць трывогі.

Да адмоўных зьявішчаў у нашых школах трэба аднесьці рэстаўрацыю старой кніжнай вучобы. За апошнія 2-3 гады мы сваю ўвагу канцэнтравалі галоўным чынам на падняцьці пісьменнасьці і значна адыйшлі назад у пытаньнях выхаваньня. Праўда, мы дасягнулі некаторых вынікаў у павышэньні ўзроўню ведаў, але разам з тым у сэнсе мэтадаў працы школа за гэтыя гады не асабліва пайшла наперад, а самых ведаў дасягнулі, галоўным чынам, зуброжкай. Мы можам проста сказаць, што наша сучасная школа ў большай частцы яшчэ зьяўляецца школай зуброжкі.

А школа кніжная, школа зуброжкі, школа, ня зьвязаная з жыцьцём, дасьць нам не практычна падрыхтаванага будаўніка, а схалястыка—кніжніка.

Калі дагэтуль мы працавалі над пытаньнямі праграмы і зьместу працы, дык зараз неабходна будзе зьвярнуць асаблівую ўвагу на палепшаньне мэтадаў школьнай працы. Нас павінна цікавіць ня толькі, **што праходзяць у школах, але і як праходзяць.**

### Рэстаўрацыя экзаменаў і бальнай сыстэмы.

Другім адмоўным зьявішчам у працы школ зьяўляецца нічым не захоўваемая рэстаўрацыя бальнай сыстэмы і экзаменаў.

Шэраг лістоў і карэспандэнцый дзяцей-вучняў высьвятляе тыя адмоўныя зьявішчы, якія выклікаюцца гэтай сыстэмай. У пагоні за «вудам» дзеці знаходзяць усялякія шляхі, каб ашукаць настаўніка, і нават гэтым пахваляюцца: «Трэба толькі давецацца пра характар і прыёмы настаўніка і тады лёгка яго ашукаць», кажуць дзеці ў сваіх дапісах.

Замест таго, каб пайсьці да настаўніка з прызнаньнем слабых месц сваёй працы, каб атрымаць ад яго належную дапамогу і ўказаньні, дзеці стараюцца паказацца настаўніку ў самым лепшым «сьвеце», каб атрымаць «вуд». Дзякуючы гэтаму, мы назіраем фармальны падыход, зуброжку і іншыя адмоўныя зьявішчы ў школе,—у аснове ня веды, а жаданьне атрымаць добрую адметку, а гэта зьяўляецца самым сапраўдным малюнкам старой школы.

Дзеці з больш слабымі ведамі, менш сьмелыя, а правільней кажучы—менш здольныя ашукваць настаўніка, перажываюць цяжкую драму.

На вялікі жаль, такімі дзецьмі зьяўляюцца пераважна дзеці беднаты.

З карэспандэнцый дзяцей відаць, што на гэтай глебе адметак узмацняецца сацыяльны антаганізм у школе. Дзеці абвінавачваюць настаўнікаў у тым, што настаўнік у часе экзаменаў лепш адносіцца да дзяцей заможных.

Мы не бярэмся судзіць—наколькі гэта правільна. Магчыма, што ў іх гаворыць псыхалёгія пакрыўджанага. Нам важна якраз тое, што дзеці так думаюць, а гэта параджае хворыя адносіны паміж вучнямі і настаўнікамі. А гэтаму і спрыяюць адметкі і экзамены.

### Трэба знайсьці новыя формы вучоту пасьпяховасьці.

На далейшы час мы павінны адмяніць усялякія калёквіумы, набліжаючыя да старых экзаменаў, забараніць рашуча адметкі ва ўсіх іх відах і формах, каб сваімі ўласнымі рукамі не распаўсюджваць у школе тых зьявішчаў, якія нам так добра вядомы па старой школе.

Трэба тэрмінова распрацаваць такія мэтады вучоту, якія мелі-б выхаваўчае значэньне, якія не дзялілі-б дзяцей на пакрыджаных і непакрыўджаных, а дапамагалі-б дзецям працаваць, правяраць сябе, сьвядома адносіцца да сваіх недахопаў і дасягненьняў. Мэтадком ужо зацікавіўся гэтым пытаньнем і ў пляне сваёй далейшай працы ставіць яго, як найбольш актульнае.

### За сьвядомую дысцыпліну.

Нельга абыйсьці маўчком і таго факту, што ў нашай школе аджыла сыстэма пакараньня. З дапісаў вучняў відаць, што ў некаторых школах дзяцей б'юць і за вушы дзяруць. Гэтыя факты назіраюцца ня толькі ў сельскіх, але дзе-ні-дзе і ў гарадзкіх школах.

«Оболтус», «свинья», «нахал», «дура», «болван» і іншыя эпітэты накшталт прыведзеных—на вялікі жаль—вучань чуе ад настаўніка ў нашай школе. Шырока практыкуецца выклік бацькоў, і гэта ўжо лічыцца як мэтад

---

*) Артыкул напісан згодна матар'ялаў Мэтадкому НКА БССР.

нашай школы. Больш разьвітыя бацькі не згаджаюцца з гэтым мэтадам. «Мы аддалі вам дзяцей на выхаваньне і спадзяёмся на школу», зусім слушна кажуць яны. У большасьці-ж выпадкаў бацькі знаходзяць выхад у тым, што б'юць дзяцей, пакідаюць бяз полудню і г. д. Выпадкі выкліку бацькоў—вельмі частае зьявішча ня толькі ў звычайных школах, але нават і нашы вопытна-практыкавальныя школы пры пэдтэхнікумах дзе-ні-дзе практыкуюць гэты мэтад і тым самым несьвядомых бацькоў штурхаюць на пабоі дзяцей.

Зразумела, што ўсе гэтыя зьявішчы адбіваюцца на псыхіцы дзіцяці і вядуць да пабегаў са школы, з дому бацькоў і г. д.

Ці мае гэта што-небудзь агульнае з камуністычным выхаваньнем?

Мы за сьвядомую дысцыпліну, а не за дысцыпліну пугі, якая выхоўвае нявольніка. Тут таксама трэба адзначыць, што маладысцыплінавыя дзеці ёсьць у большасьці дзеці беднаты. Мы абавязаны іх выхоўваць, а не караць. Мы не павінны сваёю ўласнаю рукою памнажаць кадр бяспритульных і правапарушнікаў.

### Слаба пастаўлена пазашкольная праца.

Нашы школы перагружаны. Яны працуюць у 2-3 зьмены. Пасьля 3-4 гадзін вучобы дзіцяці няма куды дзявацца. Клюбы, тэатры, усё гэта для дарослых, а не для дзяцей. Для дзяцей у нас шырока прадастаўлены вуліцы, дзе кішыць мяшчанства. Там дзеці знаходзяць сабе прыяцеляў, розныя вулічныя хэўры, якія маюць шмат вабячага і больш адказваюць эмоцыі дзіцяці, як наша школьная праца.

З гэтага становішча трэба абавязкова знайсьці выхад. Трэба забясьпечыць дзяцей клюбамі, шырэй адчыніць доступ дзецям у кіно, зразумела, на жаданыя фільмы. **Трэба абавязаць усе клюбы прадастаўляць свае памяшканьні днём хоць-бы адзін раз у тыдзень для дзяцей.** У 5-ці гадовым пляне НКА трэба прадбачыць будаўніцтва дзіцячых клюбаў. Трэба ўрэшце прымусіць усе нашы мастацкія, навуковыя ўстановы, музтэхнікум, літаратурныя аб'яднаньні наладжваць для дзяцей часьцей вечары, прагулкі і г. д. Толькі пры гэтых умовах мы зможам адцягнуць дзяцей ад вуліцы і па-за школай афармляць іх ідэалёгію.

### Націск дробнай буржуазеі на нашу школу.

Гэта зьявішча мы адчуваем ва ўсіх галінах нашага жыцьця, узмацніўся гэты націск за апошні час і ў нашых школах.

Мы назіраем у школах пацыянальны антаганізм. Вось малюнак яго ў аднэй школе.

...«Зайдзеце ў клясы і ўбачыце, што за маленькім выключэньнем яўрэйскія дзеці сядзяць асобна, а на другім баку—беларускія. Усюды—на двары, пры гульнях і г. д. дзеці трымаюцца паасобна"...— піша вучань Азярыцкай сямігодкі. Можна прывесьці яшчэ шэраг прыкладаў нацыянальнага антаганізму ў нашай школе.

У апошнія часы ў школе досыць моцна разьвілося мяшчанства: кепскія адносіны паміж хлопчыкамі і дзяўчаткамі, парнаграфічныя надпісы, папулярна сярод дзяўчат касмэтыка, альбомы з мяшчанскімі вершыкамі і г. д. У часе рэлігійных сьвят назіраецца часта дэманстрацыйнае ненаведваньне школы часткай дзяцей.

Усе гэтыя хворыя зьявішчы, праўда, не зьяўляюцца ў нашай школе масавымі, але яны вельмі характэрны і прымушаюць нас прыняць усе меры, каб іх спыніць, ня даць шырэй разьвіцца. Зразумела, што з гэтымі зьявішчамі весьці барацьбу пры дапамозе рэпрэсій вельмі цяжка. Тут трэба супроць-паставіць ім сур'ёзную выхаваўчую працу. Трэба аўладаць вольным часам дзяцей, трэба ўзмацніць пазашкольную працу і працу піанэрарганізацыі.

### Падрыхтоўка да барацьбы.

Мэтадком у канцы мінулага навучальнага году ўсе гэтыя ненармальныя зьявішчы нашай школы паставіў на шырокае абгаварэньне настаўніцкай канфэрэнцыі. У цэлым шэрагу сэкцый былі прапрацаваны асноўныя пытаньні выхаваўчай працы школы. У выніках канфэрэнцыі Мэтадком апрацаваў шэраг мэтадычных зборнікаў пад агульнай назвай—„Выхаваўхая праца школы“. У гэтых зборніках даецца напрамак па арганізацыі працы школьных арганізацый, грамадзка-карысвай працы школы і розных відаў клюбна-гуртковай пазашкольнай працы.

Перад пачаткам навучальнага году нашаму настаўніцтву неабходна ўсе гэтыя пытаньні прапрацаваць у сваіх гуртках.

Мэтадком у сваім пляне на наступны год унёс такія пытаньні, як меры выхаваўчага ўзьдзейнічаньня, пляна ваньня і вучот працы. Намечана таксама больш падрабязна апрацаваць праблемы антырэлігійнага, інтэрнацыянальнага, працоўнага, палавога і мастацкага выхаваньня. Але разам з тым усяму настаўніцтву патрэбна добра прапрацаваць усе гэтыя пытаньні ў сваіх мэтадычных аб'яднаньнях. Школа павінна рашуча стаць на шлях выхаваньня новага чалавека.

**В. Зайцаў.**

# Як пажадае загадчык.

Да апошняга часу захаваўся погляд, што праца сэкратара школьнае рады ці бібліятэкара ня вельмі сур'ёзна і важная і яе можа выконваць і не настаўнік. Звычайна гэту працу перадаюць таму, хто мае невялікую нагрузку, або невялікі заробак. Наймення зарабляюць, як вядома, дзелаводы, і ў некаторых школах яны і выконваюць абавязкі сэкратароў ці бібліятэкараў. У такіх выпадках сэкратар толькі піша пратаколы і больш ніякай працай не вядзе. Часта можна пачуць такія тлумачэньні: «сэкратар—пасада выбарная. Каму-ж якое дзела да таго, што абралі дзелавода, а ні кага іншага». Ня ведаю, як дзе, а як „абіраюць“ у 2 слуцкай сямёхгодцы я зараз і напішу.

У 26-27 годзе загадчык у пачатку году прапанаваў абраць сэкратарам школьнае рады дзелавода, які карыстаецца з боку загадчыка вялікай пашанаю. Школьная рада моўчкі згадзілася, бо, відаць, ніхто не хацеў ісьці супроць загадчыка.

У леташнім годзе і гэтае «камэдыі» ня было. Загадчык чамусь змаўчаў, настаўнікі таксама і сэкратарам зноў застаўся дзелавод. Вось яскравы прыклад, як абіраюць сэкратароў у некаторых школах.

Мала ўдзяляў увагі гэтаму пытаньню і інспэктар і мясцком, як-бы ўсе лічылі гэта нармальным у нашым школьным жыцьці. У гэтых адносінах гэта школа не адзіная ў горадзе.

Неабходна ў гэтым годзе інспэктару і мясцкому зьвярнуць большую ўвагу на працу сэкратароў і бібліятэкараў у школах.

**Стуцак. Мытлянец.**

# З чым мы сустракаем навучальны год.

(Барысаў).

На бягучы год закуплена розных падручнікаў на 3987 руб., якіх хопіць на ўсе школы. Абсталяваньне школ ужо скончана; на гэту мэту патрачана 2106 руб. Адчыняецца чатыры новых школы ў вёсках **Лошніца**, К. **Слабадзе**, **Сморнах** і ў **Дубовым Лозе** (спэцыяльна літоўская школа). Адчыняецца адна старэйшая група сямігодкі ў вёсцы Забашэвічах.

Будзе адчынена ў хуткім часе адна хата-чытальня, школа для дарослых і адна пляцоўка. Праведзена падрыхтоўка да ўсеагульнага абавязковага навучаньня. У 1929 годзе намечана пабудаваць новую школу ў вёсцы Лісіна. Апал для вясковых школ ужо загатоўлен.

Камплектаваньне ў школах закончана. Набрана 12 новых настаўнікаў.

Блага справа з таго боку, што на гаспадарчыя патрэбы школы адпушчана мала грошы. Грунтоўны рамонт школ праведзен не ў дастатковай меры. На будаўніцтва новых школ адпушчана 8000 руб.—гэтых сродкаў мала.

Асабліва мала адпушчана на ўтрыманьне хат-чытальняў і нардамоў.

На кватэрныя патрэбы настаўніцтва (68 чал.) адпушчана ўсяго 1000 рублёў.

**А. Станкевіч.**

## Трэба ўраўняць матар'яльны дабрабыт школ.

Ад матар'яльнага становішча школы залежаць у значнай меры і добрыя вынікі школьнае працы.

Вельмі дрэнна і цяжка працаваць настаўнікам (асабліва ў старэйшым канцэнтры), калі ў школе няма нават самых неабходных навучальных прылядаў і наглядных дапаможнікаў; калі ў школе няма патрэбнай літаратуры, бібліотэчкі для вучняў і г. д.

Усе школы трэба ўраўняць матар'яльна.

Гэта ня значыць, што нашы мясцовыя грашовыя ўстановы не аднолькава падыходзяць да ўсіх школ у разьмеркаваньні грашовых сродкаў на ўтрыманьне і абсталяваньне.

Наша бяда ў тым, што вельмі ўжо аднолькава нашы грашовыя ўстановы забясьпечваюць матар'яльна ўсе школы.

Савецкая ўлада адчыніла шмат новых школ. Гэтыя школы растуць і шпарка пашыраюцца, павялічваючы з кожным годам лік вучняў.

Але яны яшчэ далёка ня маюць належнага абсталяваньня.

І вось да такіх школ, пры вызначэньні сродкаў на іх абсталяваньне, павінен быць асобы падыход. Іх нельга прыраўнiваць да школ, якія збудаваны на інвэнтары і габінэтах старых школ.

Яны павінны атрымоўваць большыя грашовыя сумы на абсталяваньне. Аднак, не заўсёды гэта добра ўлічваецца нашымі мясцовымі грашовымі ўстановамі.

Разам з гэтым, пакуль яшчэ існуе ў нас для багацейшых дзяцей платнасьць на ўтрыманьне школы, мы зноў адрозьніваем дзьве групы школ: 1) багацейшыя па агульнай суме платнасьці і 2) бяднейшыя. Ёсьць школы, якія зьбіраюць спэцсродкаў у год да 5000 руб., у той час, калі іншыя школы маюць у год 100-200 руб. Гэта таксама вельмі часта ня ўлічваецца нашымі мясцовымі грашовымі ўстановамі.

Зразумела, што больш багатыя спэцсродкамі школы могуць шпарка і вельмі добра абсталёўвацца і ніколі не адмаўляць сабе ва ўсіх патрэбах у працы.

Больш бяднейшыя спэцсродкамі школы адчуваюць яшчэ шмат матар'яльных недахопаў, і з кожным годам робіцца ўсё большая розьніца паміж дзьвюма вышэйпамянёнымі групамі школ.

Да найбяднейшай групы школ належыць большасьць нацшкол (яўрэйскія, польскія) і школы акраінныя, якія ўкамплектоўваюцца выключна беднатой.

Усё гэта ў сёлетнім-жа годзе трэба прыняць пад увагу мясцовым грашовым установам і пры разглядзе і зацьверджаньні школьных каштарысаў не падыходзіць да ўсіх школ аднолькава. Асыгноўваючы на працягу некалькіх гадоў на бяднейшыя школы на некалькі дзесяткаў процантаў большыя сумы, мы зможам праз вядомы час ураўняць бяднейшыя школы з багацейшымі.

Наркамфін са свайго боку павінен у гэтым сказаць сваё слова.

**Гунько.**

*Полацак.*

# За новае пакаленьне.

*„Рэвалюцыя—не рэвалюцыя, калі яна ня выявіць найвялікшай увагі да дзяцей: яны—тое будучае, у імя якога рэвалюцыя робіцца“.*

**Ленін.**

Перад намі стаіць надзвычайна вялікая і адказная задача — выхаваць новае пакаленьне, новую зьмену людзей, фізычна здаровых, з моцнаю воляй, з калектывістычнымі звычкамі, арганізаваных для барацьбы за ідэалы працоўных мас і будаўніцтва камунізму. Гэтыя выхаваўчыя задачы праводзіць камуністычная партыя праз школу са ўсёй яе арганізацыяй працы і выхаваньня, праз піанэрарганізацыі, праз дзіцячы друк і інш. Мы ў гэтым напрамку ўжо маем некаторыя дасягненьні і яшчэ большыя задачы ў будучым. Маецца яшчэ цэлы шэраг недахопаў у пастаноўцы выхаваўчай працы ў нашых школах і піанэрарганізацыях, але ўсё-ж тут мы выхоўваем у падрастаючай моладзі новыя погляды, новыя ідэалы, новыя навыкі, ставім новыя задачы ў жыцьці.

Куды горш абстаіць справа з выхаваньнем дзяцей па-за школай і дзяцей, якія не ахоплены школай зусім. А такіх дзяцей вельмі многа ў нашых вёсках (у некаторых да 40 проц. і нават больш).

Значная частка дзяцей вёскі выхоўвацца выключна ў ідэалах сям'і і пад уплывам бруднай і часта п'янай вуліцы. Дзеці з малых дзён выхоўваюцца ў розных забабонах, у рэлігійным дурмане; з малых гадоў дзецям прышчэпліваюцца антыкалектывістычныя навыкі. Арганізм дзяцей атрульяецца самагонам яшчэ ў калысцы, а стане дзіця поўзаць, па падлозе ўжо падбірае акуркі, пазнае смак табакі. Няма чаго і казаць, што дзеці ў дашкольным узросьце ўжо і п'юць (разам з бацькамі і гасьцямі), і кураць, і лазяць у чужыя гароды.

Дзеці ў вёсцы пачынаюць вельмі рана працаваць: пасьцяць гусей, авечак, сьвіней, кароў, коняй (водзяць на начлег у 8-9 гад), носяць бацком на поле ці на сенакос сьнедаць і г. д. Праца зусім неарганізаваная: пастушок амаль што на кожную карову ці на 2-3 сьвіньні альбо авечкі і кожны глядзіць толькі за сваёй жывёлай. Дзеці любяць гуляць, але часу дзеля гэтага вельмі мала. Гульні бацькі лічаць «дуратой». Ёсьць гульні досыць дзікія (гульня ў «куклу» і інш.).

У такім асяродзьдзі і ў такіх умовах і растуць вясковыя дзеці.

Разумеецца, такое становішча зусім ненармальнае. Выхаваньню дзяцей неабходна ўдзяліць больш увагі. І ў першую чаргу з боку школы. Грамадзкая праца школы павінна быць накіравана ў бок належнай працы сярод бацькоў, удзягненьня дзетвары ў школу. Школа павінна стварыць шэраг дзіцячых арганізацый і гурткоў каля школы з мэтай арганізацыі дзяцей. Фізгурткі, гурткі расказчыкаў, сьпевы, гульні —павінны зацікавіць дзяцей, і ў гэтым напрамку школе неабходна распачаць працу сярод дзяцей вёскі.

У сваёй грамадзкай працы настаўніцтва (асабліва настаўніцы) павінны зьвярнуць увагу на пашырэньне ведаў сярод бацькоў дзяцей (галоўным чынам сярод матак) аб уходзе за фізычны і разумовым разьвіцьцём дзіцяці. Неабходна дабіцца, каб маткі ішлі на парады не да павітух і знахарак, а да настаўніц. У мясцовых газэтах неабходна высьвятляць умовы жыцьця і выхаваньня дзяцей, будзіць думку насельніцтва аб арганізацыі і стварэньні больш спрыяючых умоў разьвіцьця дзяцей. Асаблівую ўвагу неабходна зьвярнуць на абарону правоў дзяцей вясковай бедната і сірот, якія вельмі часта эксплёатуюцца заможнай часткай насельніцтва і нават радней бацькоў. Гэтым пытаньнем павінны зацікавіцца і сельсаветы.

Школа і сям'я ў нас адарваны адна ад другой, жывуць асобным жыцьцём, і дзеці адчуваюць гэту дваістасьць у выхаваньні. Нам неабходна стварыць адзіны напрамак у выхаваньні. Пэрыядычны друк павінен пытаньне выхаваньня зрабіць актуальным пытаньнем усіх працоўных мас.

Справа вельмі важная і сур'ёзная. Справа ня толькі пэдагогаў, а і самай шырокай савецкай грамадзкасьці.

**В. Самцэвіч.**

*Барысаў.*

# Настаўнік павінен ахоўваць здароўе дзяцей.

Набліжаецца ўжо час школьных заняткаў. Настаўніцтва пачынае ўжо весьці падрыхтоўчую працу да новага навучальнага году. Пачынаюць думаць аб рамонце школ, аб забясьпечаньні школ падручнікамі, аб праграмах, аб мэтадах выкладаньня і г. д.

Але амаль што кожны настаўнік, прыступаючы да працы, упушчае з віду адзін даволі значны і адказны бок працы—гэта азнаямленьне пасьля лета як са станам здароў'я вучняў, так і з санітарным хатнім станам іх, гэта значыць, ці няма заразьлівых хвароб сярод сем'яў вучняў.

Гэта пытаньне грае вельмі важную ролю, папершае, у сэнсе пасьпяховасьці вучняў, а падругое, можа папярэдзіць тыя перапынкі ў занятках, якія здараюцца ў працягу навучальнага году па прычыне заразьлівых хвароб сярод вучняў. Дзеля гэтага настаўнік павінен быць у курсе справы аб руху заразьлівых хвароб у яго школьным раёне і павінен весьці адпаведную барацьбу з распаўсюджаньнем гэтых хвароб.

З чаго-ж настаўнік павінен пачаць?

**Папершае**, настаўнік у пачатку заняткаў павінен апытаць усіх вучняў, ці не хварэў хто ўлетку, а калі хварэў, дык па якую хваробу, ці даўна і як адчувае сябе цяпер, ці ня скардзіцца на боль дзе пасьля хваробы. Тых вучняў, што хварэлі, павінен настаўнік уважліва агледзець і азнаёміцца са станам іх здароў'я. Вучняў з нездавальняючым станам здароў'я настаўнік павінен запісаць і пры выпадку запрасіць доктара ці фэльчара агледзець іх, ці могуць яны нармальна займацца ў школе, а можа ім патрэбен яшчэ адпачынак пасьля хваробы або і лекі, ці толькі ўзмацніць харч і на першых парах палегчыць заняткі.

Усё гэта вельмі важна як для самага настаўніка, так і для дзяцей, бо калі ўпусьціць гэта з віду, дык гэта можа адбіцца як на посьпехах некаторых дзяцей, так і на здароў'і іх.

**Падругое**, трэба апытаць усіх дзяцей, ці не хварэе цяпер хто—ці няма якіх болечы балячак на целе, або высыпкі, ці не баліць вочы, ці няма каросты, ці не баліць у грудзёх і г. д.

Усё гэта важна ведаць для таго, каб ня было заразьлівых хвароб сярод дзяцей. Могуць быць хворыя трахомай, каростай, сухотамі, пранцамі і інш. заразьлівымі хваробамі. Наяўнасьць гэтых зьявішчаў сярод вучняў можа разьнесьці заразу сярод здаровых дзяцей. Гэткіх выпадкаў на вёсцы ёсьць шмат і, дзякуючы несьвядмасьці, заразьлівыя хваробы захопліваюць у свае кіпцюры здаровых дзяцей.

**Патрэцяе**, трэба апытаць вучняў, ці не хварэе хто сярод дамашніх дзяцей, а калі хварэюць, то выявіць, якою хваробаю— ці не заразьліваю.

Тут настаўніку на вёсцы трэба быць знаёмым з галоўнымі пошаснымі дзіцячымі хваробамі і іх прыметамі, бо часам для выяўленьня хваробы, дзе няма мэдыцынскай асобы, трэба схадзіць у тую хату, дзе хварэюць дзеці, і пераканацца, ці ня носіць хвароба пошасны характар.

Дзеля гэтага трэба ведаць наступныя хваробы: шкарлятына, дыфтэрыя, водра, коклюш. Памянёныя хваробы за апошнія гады з пачаткам навучальнага году пачынаюць вельмі павялічвацца і захапляюць галоўным чынам дзяцей ад 5—14 гадоў.

Адзначыўшы галоўныя тры моманты з жыцьця школы ў санітарнай галіне, якія настаўнік павінен мець на ўвазе як у пачатку навучальнага году, так і ў працягу яго, паўстае пытаньне аб тых мерах барацьбы, якія настаўнік зможа павесьці.

Аб першым моманце я ўжо ўпаміпаў, для чаго настаўніку патрэбна выяўленьне стану здароўя вучняў пасьля лета. Нельга падыйсьці правільна да аб'екту наогул, ня ведаючы яго добра, тым больш гэта адносіцца да дзяцей. Настаўнік заўсёды павінен трымаць у памяці тое, з якім вучнем ён мае справу—са здаровым ці хворым, бо ад гэтага шмат залежыць успрыманьне ведаў вучнем і здольнасьці яго. Значыцца, выяўленьне першага моманту мае значэньне ня толькі санітарнае, а і падагагічнае.

Іншыя-ж два моманты маюць значэньне чыста санітарнае—барацьба за ахову здароўя дзяцей, за здоровую школу.

Калі ёсьць хворыя дзеці ў школе, неадкладна выклікаць мэдыцынскую асобу для агляду іх. З сур'ёзнымі заразьлівымі хваробамі дзеці павінны быць выключаны са школы на тэрмін, паказаны мэдыцынскай асобай, а з неапасным хваробамі павінны лячыцца, ходзячы ў школу. Тут, вядома, ужо залежыць усё ад паказаньняў доктара ці фэльчара.

Узьнікае значна горшае становішча, калі пачынаюць разьвівацца сярод дзяцей востра-заразьлівыя хваробы, пошасныя. Тут значна цяжэй весьці барацьбу, а значыць, і трэба больш аддаваць увагі, трэба прымаць тэрміновыя і рашучыя меры.

Калі выявіцца, што дома таго ці іншага вучня хварэюць дзеці заразьліваю хваробаю, трэба ў той-жа момант адаслаць тых вучняў дадому і забараніць ім зьяўляцца ў школу на патрэбны тэрмін.

Забараніць вучням сустракацца з тымі таварышамі, у хаце якіх маюцца хворыя дзеці. Павесьці гутаркі аб апасцы заразьлівых хвароб ня толькі з вучнямі, а і з насельніцтвам, растлумачыўшы спосабы перадачы хвароб і аб мерах барацьбы з імі. Зрабіць зараз-жа дэзынфэкцыю ў школе, дзеля чаго трэба мець заўсёды ў запасе неачышчаную карболавую кіслату (яна каштуе ня дорага). На вядро гарачай вады ўзяць 400 грамаў карбол. кіслаты і гэтым растворам абмыць лаўкі і падлогу ў школе.

Трэба пачаць аздараўленьне насельніцтва са **школы**.

Грамадзкі і маральны абавязак кожнага настаўніка—прыняцца за аздараўленьне школы і санітарнае выхаваньне як дзяцей, так і ўсяго насельніцтва і гэтым папярэдзіць разьвіцьцё пошасных хвароб і ўтварыць гігіенічныя ўмовы жыцьця, якія ў нас на Беларусі зусім яшчэ прымітыўныя.

Спынімся па кароткім апісаньні памянёных пошасных хвароб, каб настаўнік мог арыентавацца і папераджаць масавае распаўсюджаньне іх.

*Шкарлятына*. У хворага вялікі жар, рвоты ў пачатку, боль у горле і пазьней густая высыпка на шыі і грудзёх.

Хвароба гэта вельмі ліпучая, дзеля чаго не дапушчаць ніякага збліжэньня здаровых з хворымі.

*Дыфтэрыя*. Дзіця скардзіцца на боль у горле. У роце чырвона і апухаюць залозы, а месцамі зьяўляюцца шэра-жоўтыя налёты ў горле. Тэмпэратура высокая. Голас хрыплы. Хвароба, як і папярэдняя, вельмі заразьлівая.

*Водра*. Жар, чырвоныя вочы, кашаль і катар, а праз некалькі дзён высыпка. Калі хвароба зьявілася ў хаце, дык перахварэюць усе дзеці.

*Коклюш*. Гэта хвароба пачынаецца звычайным кашлем, які праз тыдні 2 пераходзіць у вельмі моцныя перыядычныя кашлевыя прыступы, якія часта канчаюцца ванітамі. Адразу распазнаць хваробу цяжка, толькі прыступы пазьней выяўляюць яе.

Неабходна зьвярнуць увагу на першыя дзьве хваробы, якія зьяўляюцца самымі страшнымі для дзяцей. Самы верны спосаб барацьбы з гэтымі хваробамі—ня мець ніякіх зносін з хворымі і нават з тымі асобамі, якія даглядаюць хворых.

**М. Говар.**

# Чым хварэюць нашы школы.

Да гэтага часу мы прывыклі гаварыць аб тым, што наша школа мала працуе, што трэба паляпшаць навучальны год, што трэба яе лепш абсталяваць, трэба даць лепшыя памяшканьні і г. д. Бязумоўна, усё гэта верна, і ўсё гэта патрэбна нашым школам. Тут мы павінны адзначыць, што на даным шляху наша школа штогодна паляпшаецца і расьце.

Адначасна з гэтым, па нашай думцы, мы мала зьвяртаем увагі на прычыны іншага парадку, гэта значыцца на прычыны суб'ектыўнага парадку альбо на якасны бок працы школ. А між іншым тут ёсьць аб чым гаварыць, бо мы лічым, што ў гэтым напрамку наша школа значна адстае і ад жыцьця, і ад тых запатрабаваньняў, якія высоўвае гэта жыцьцё.

Цяжэй за ўсе самому пазнаць сябе. Так і нашым школам. Мы ўпэўнены ў тым, што кожны склад настаўнікаў школы будзе абараняць існуючую ў данай школе сыстэму арганізацыі школьнай працы, бо з гэтай арганізацыяй кожны настаўнік звыкся, і яна яму здаецца найбольш адпавядаючай яго ўласным асаблівасьцям, запатрабаваньням і пэдагагічным здольнасьцям, а таксама і наогул сучаснаму становішчу школы.

Зусім інакш гэта будзе здавацца старонняму воку. Так, нам здаецца, што ў шэрагу школ г. Менску ў самой арганізацыі школьнай працы ёсьць значная колькасьць недахопаў, якія патрэбна і якія зараз-жа можна было-б зжыць. Вось аб гэтым і будзе наша гутарка.

Перш за ўсё трэба лічыць, што менскім школам у мінулым годзе не ўдалося ў дастатковай ступені разгарнуць навокал сябе грамадзкую думку і грамадзкую працу. У даным выпадку мы не бярэм фармальны бок справы (бо з гэтага боку як быццам усё абстаіць добра), а мы бярэм сутнасьць яе. І тут у першую чаргу патрэбна значнае пашырэньне і паглыбленьне працы як сярод грамадзкіх арганізацый, так і апошніх у школе.

Другім недахопам арганізацыі школьнай працы можна лічыць тое, што ў большай частцы школ няма пэўнай сыстэмы ў арганізацыі працы. Калі-б запытаць нашы школы, як арганізавана ў іх праца, дык напоўна можна лічыць, што ў большасьці мы не атрымаем адказу—па якой сыстэме арганізавана школьная праца. У сувязку з гэтым можна лічыць недахопам і тое, што сучасная школа мае ўзвышаны процант другагоднікаў і пераросткаў.

На гэтым пытаньні мы і застановімся крыху. Справа ў тым, што, як паказвае практыка, асабліва высокі процант другагоднікаў прыпадае на вучняў пры пераходзе іх з трэціх у 4-ыя групы і яшчэ большы процант пры пераходзе з 4-ых у 5-ыя, гэта значыцца—пры пераходзе з 1-га канцэнтру ў другі. Таксама значны адсеў вучняў робіцца і пры пераходзе іх з 5-х груп у 6-ыя.

Калі мы пры гэтым зьвернемся да пытаньня сацыяльнага складу вучняў, пападаючых у другагоднікі, дык мы ўбачым, што найвялікшы процант тут прыпадае на дзяцей бяднейшых рабочых і наогул на дзяцей бяднейшых бацькоў.

Зразумела, што гэтыя другагоднікі ў канцы канцоў даюць узвышаны процант пераросткаў, якія, не даходзячы да старэйшых клясаў школы, выбываюць са складу яе вучняў.

Такім парадкам, мы бачым, што нашы гарадзкія школы даюць вельмі значны процант другагоднікаў, пры лічым сюды пападаюць галоўным чынам дзеці мала забясьпечаных бацькоў. Дзеці-ж іншых катэгорый, так званыя платнікі, у большасьці праходзяць школу без затрыманьня, канчаюць яе і потым запаўняюць сабою агульнаадукацыйныя курсы, а там так альбо інакш дабіраюцца да Вузаў.

Калі мы цяпер падумаем над тым, якія-ж прычыны паніжаюць узровень выхаваўчай і адукацыйнай працы менскіх школ, дык мы можам перакаканацца, што прычынай гэтаму зьяўляецца ня толькі матэр'яльнае становішча школ і вучняў, але тут адыгрывае значную ролю і сама сыстэма і спосабы арганізацыі школьнай працы і школьнага жыцьця.

Для прыкладу возьмем першы канцэнтр сямігодкі. Тут адна справа, калі будзе ўжывацца выкладная сыстэма, і другая, калі вучні будуць штогодна пераходзіць ад аднаго настаўніка да другога. У менскіх школах праца арганізавана па розному. У адных школах групаводы вядуць свае групы на працягу некалькіх год—ад першай групы і аж да пераходу вучняў у другі канцэнтр; у другіх—групаводы пераменяюцца на працягу канцэнтру некалькі раз, гэта значыцца вядуць адну і тую-ж групу два-тры гады; ёсьць і такія школы, дзе групавод вядзе сваю групу толькі адзін год, а потым, перадаючы сваіх вучняў другому настаўніку, набірае сабе ў тую-ж групу новы склад вучняў. Такімі групаводамі ў большасьці зьяўляюцца групаводы 4-х груп, якія фактычна «замацаваны» за гэтымі групамі і завуцца „спэцыялістамі-групаводамі чацьвертых груп".

Бязумоўна, што арганізацыйная розьніца працы дае і розныя вынікі. Ды гэта і зразумела: там, дзе ўжываецца нармальная арганізацыя школьнай працы і школьнага жыцьця, будзе посьпех лепшы, чым там, дзе школьная арганізацыя дапаўняецца рэпэтытарскімі клясамі. Адрыў чацьцёртых груп ад агульнай сыстэмы школьнай працы першага канцэнтру робіць гэтыя групы ня толькі па форме, але ў некаторае частцы і па сутнасьці справы рэпэтытарскімі клясамі для падрыхтоўкі вучняў да пераходу з першага канцэнтру ў другі. Сэнс выхаваўчай працы ў такім выпадку значна страчваецца.

Мы вельмі будзем удзячаны нашым магчымым апанэнтам, калі яны дакажуць нам, што з пэдагагічнага пункту гледжаньня штогодная перадача вучняў ад аднаго настаўніка да другога, як гэта ў сучаснасьці робіцца з чацьвёртымі групамі, зьяўляюцца зусім нармальным становішчам у школьнай практыцы. Па нашаму-ж разуменьню такое становішча 4-х груп, калі яны прымушаны стаць рэпэтытарскай кляcай, павінна лічыцца зусім ненармальным зьявішчам. Мы мелі практыку назіраць над тым, калі пасьля рэпэтытарства вучні хутка забываюць усё тое, што было ім насьпехададзена рэпэтытарствам. Нешта падобнае можа быць і з нашымі вучнямі, якія пасьля нармальнага навучаньня ў трох першых групах — рэпэтыруюцца ў 4-й групе для ўступу ў другі канцэнтр школы.

Мы лічым, што пара ўжо нашым школам пераходзіць да нармальнай арганізацыі школьнай працы. Тым больш гэта неабходна рабіць у сучасны момант, калі матэр'яльнае становішча школы значна паляпшаецца.

Вось чаму мы лічым неабходным перад пачаткам навучальнага году зьвярнуць увагу і настаўнікаў, якія працуюць у школе, і бацькоў вучняў, а таксама і тыя устаноў, якія фактычна ведаюць справай асьветы ў горадзе, на неабходнасьць палепшаньня арганізацыі працы ў школе і на ўзмацненьне ў ёй грамадзка-выхаваўчай працы.

На гэтым шляху патрэбна ў першую чаргу перайсьці нашым школам на сталую сыстэму працы, адмовіўшыся тым самым ад розных рэпэтытарскіх прыёмаў, у якой-бы форме яны ні

# Добрая праца дае карысныя вынікі.

## Як Амсьціслаўшчына закончыла мінулы вучэбны год.

Вельмі шкода, што ніхто з амсьціслаўскага настаўніцтва да гэтага часу не адгукнуўся аб тэй агульна-настаўніцкай канфэрэнцыі, якою мы закончылі свой мінулы вучэбны год.

Як па форме сваёй арганізацыі, так і па зьместу, канфэрэнцыя гэта прадстаўляе сабой досыць арыгінальны заключны акт гадавой працы, акт, якога ў раёне ня бачылі ў мінулыя гады.

Некалькі слоў аб падрыхтоўцы да канфэрэнцыі. Падрыхтоўка гэта пачалася ў раёне амаль за месяц раней і выявілася ў 19 сходах сэкцый раённага мэтадычнага бюро, у выданьні насьценнай газэты і пабудове раённай школьнай выстаўкі. Экспанаты выстаўкі занялі сабой каля дзесяці пакояў, у стала вытрыманай сыстэме зьмяшчаючы вынікі працы школ раёну за мінулы год. Былі тут узоры комплекснай працы па-групна і патэмна, была цэлая галерэя дзіцячых малюнкаў, як вынікі маляваньня; па-прадметна і па-школьна цэлыя груды сшыткаў пісьмовых і іншых прац вучняў старэйшага канцэнтру гарадзкіх 7-годак. Асаблівую ўвагу звярачваў на сябе фізычна-матэматычны аддзел 2-й 7-кі з фізычнымі і іншымі прыладамі, зробленымі вучнямі школы. Амаль што цэлую сьцяну заняла сабою насьценная газэта, выданая РМБ, у якой, апрача артыкулаў навукова-мэтадычнага зьместу, дадзены падагуленьні ўсёй мэтадычнай працы школ раёну.

Самая агульна-раённая канфэрэнцыя, расьцягнуўшыся на тры дні, зьявілася актам падагуленьня гадавой працы і актам самакрытыкі самога настаўніцтва.

Сярод другіх пытаньняў вялікую ўвагу зьвярнуў на сябе даклад раённага інспэктара і спрэчкі па ім. У сваім дакладзе, заняўшым некалькі гадзін, інспэктар паказаў, што закончаная зараз гадавая праца ў раёне адрозьніваецца ад працы мінулых год самымі ўмовамі і нават зьместам яе.

Кіравала працай РМБ. Але, дзякуючы самай структуры МБ (сэкцыі, гурткі, пэдфакі), працавала ў ім уся раённая маса асьветнікаў і такое кіраваньне правільней можа быць названа «самакіраваньнем». МБ толькі давала напрамак, служыла штурхачом і выпраўляла тыя адхіленьні, якія заўважвала ў працы на практыцы і ў пратакольных сводках сэкцый. Дзякуючы такім умовам, і вынікі працы, а таксама якасьць яе дадатна адрозьніваюцца ад такавых у мінулым.

Кажучы аб мэтадычнай працы; дакладчык адзначыў асаблівую карысьць і добрыя вынікі ўзорна-практычных лекцыяў па пэдрадах на вёсцы. На гэтых лекцыях вясковае настаўніцтва з прадстаўніком ад РМБ шляхам самакрытыкі знаходзіла здаровую дарогу ў сваёй пэдагагічна-школьнай працы і практычна паглыбляла сваю кваліфікацыю.

Як на недахоп у пэдагагічнай працы, дакладчык паказаў на ўжываньне некаторымі настаўнікамі славеснага мэтаду выкладаньня без арыентацыі на ўзрост дзяцей, а таксама на недастатковасьць увагі некаторых настаўнікаў да антырэлігійнага выхаваньня школьнікаў. Нявытрыманы, па яго думку, і прынцыпы пэдалёгіі ў школе.

У сваёй пастанове па дакладу і спрэчках канфэрэнцыя прызнала, што, дзякуючы добраму кіраўніцтву з боку РМБ і інспэктуры і моцнай ініцыятыве апошняй, праца культасьветных устаноў Амсьціслаўшчыны вялася добра. Як асаблівыя дасягненьні, сход прызнаў заснаваньне ў горадзе і раёне пэдрад і гурткоў, якімі стала распрацован за год праграмны матар'ял, з прычыны чаго павысілася вытворчасьць самае школы і кваліфікацыя настаўвіцтва.

Як добры пачатак, адмеціў сход арганізацыю раённа-школьнай выстаўкі і пажадаў, каб у наступным праз выстаўку больш адбівалася праца вясковай школы.

Трэба, каб іншыя раёны скарысталі вопыт Амсьціслаўшчыны і ў працягу надыходзячага вучэбнага году падрыхтаваліся да такога прыгожага і карыснага акорду гадавой працы, якім закончыла мінулы вучэбны год амсьціслаўскае настаўніцтва. Асаблівая ўвага—раённым пэдагагічным выстаўкам.

**Настаўнік Я. Г.**

---

ўжываліся—ці ў форме арганізацыі заняткаў у школе ў асобных групах і з асобнымі «спэцамі», або ў форме дачы прац «на дом» на летні час і г. д.

Існаваньне інстытуту „спэцыялістых-групаводаў па 4-х групах», па нашай думцы, проста якоесьці непаразуменьне і ва ўсякім разе для школы гэта—некарысная рэч. Некарысна гэта яшчэ і таму, што тут робіцца нейкая розьніца паміж настаўнікамі: **на здольных да працы і малаздольных,** якім нямо́жна даручыць нават і 4-ых груп. Абмяжоўваньне часткі групаводаў працай толькі ў трох першых групах адбівае ахвоту і стымул у іх да самаадукацыйнай падрыхтоўкі. У сваю чаргу, тое самае можна сказаць і пра групаводаў, абмяжованых працай толькі ў 4-х групах.

Мы ведаем, што клясная сыстэма, пры якой кожны настаўнік быў прымацован да тэй або іншай клясы і з году ў год выконваў адну і тую-ж праграму, і ў стары час давала кепскія вынікі. Пры гэтай сыстэмэ ўтвараліся пэдагогі рутэнёры, людзі ў футарале, для якіх сапраўднае жыцьцё, грамадзкасьць былі чымсьці далёкім і чужым. Другая справа, вывадная сыстэма, якая, да рэчы кажучы, ужывалася ў прадваенны час у земскіх школах.

Мы ўпэўнены ў тым, што варта толькі «звычайным» групаводам даць стымул для самаадукацыі, як кожны з гэтых групаводаў узрасьце да ўзроўню магчымасьці справіцца з працай у 4-ых групах ня горш сучасных «спэцаў». Тут дарэчы будзе сказаць, што большасьць з групаводаў 4-х груп—гэта тыя звычайныя вясковыя настаўнікі, якія загартаваліся і сталі спэцамі толькі таму, што ў свой час яны мелі магчымасьць працаваць па вывадной сыстэме і таму яны не закасьцянелі ў сваім разьвіцьці.

Кажучы аб вывадной сыстэме ў першым канцэнтры, мы лічым, што гэтая сыстэма з такім-жа посьпехам можа ўжывацца і ў другім канцэнтры сярод настаўнікаў-прадметнікаў. Нажаль, сучасная практыка паказвае, што і тут гэта сыстэма значна парушаецца на практычных меркаваньнях. Пры гэтай сыстэме вельмі цяжка для прадметніка сумяшчаць працу ў некалькіх установах. Таму асобныя спэцыялісты-прадметнікі імкнуцца браць працу ў паралельных клясах. Пры такім падыходзе да справы ўжо можна сустрэць у школах спэцыялістаў-прадметнікаў, напрыклад, пятых груп, шостых, сёмых, ёсьць спэцыялісты па восьмых групах і па дзевятых (чыгуначныя школы).

Мы лічылі-б карысным на далейшы час, каб і ў другім канцэнтры больш ужывалася вывадная сыстэма. Гэта дало-б магчымасьць у значнай ступені ўзьняць наогул і выхаваўчую і акадэмічную працу нашых школ. **Е. Р.**

**АД РЭДАКЦЫІ:** Артыкул друкуецца ў парадку абмеркаваньня.

# Працоўныя працэсы ў вясковай школе.

Працоўныя працэсы ў вясковай школе яшчэ і да гэтага часу не аформіліся, а то і зусім ня ўведзены. На пытаньне, як праводзіцца закранутая намі справа ў тэй ці іншай школе, пачуеш многа адказаў, якія, можна сказаць, характэрны сваёю арыгінальнасьцю. Адны на гэта пытаньне адказваюць так: дзеці самі прыбіраюць клясны пакой, мятуць падлогу, сьціраюць пыл і наогул глядзяць за чыстатою ў клясе; другія вам кажуць, што ў іх дзеці носяць ваду, мыюць падлогу, носяць дровы і паляць у печы; трэція кажуць, што ў іх у школе дзеці займаюцца лепкай з гліны, клеяць розныя кошыкі, млынкі, домікі з паперы, самі пераплятаюць кнігі, уведзена сталярка і г. д.—адным словам, адказаў можна атрымаць шмат і розных, прычым амаль кожны настаўнік вам адзначыць, што дзеці цікавяцца працай. Бацькі глядзяць на гэту справу і кажуць: «Драбніцамі living...

Прыслухоўваючыся да голасу бацькоў, пастараемся разгледзець, наколькі заслугоўваюць увагі розныя нараканьні насельніцтва ў гэтым напрамку і разгледзім, ці дожна прыведзеныя намі формы працы называць працоўнымі працэсамі, тымі працэсамі, якія ад нас вымагае наша новая працоўная школа.

Перш-на-перш, спынімся на нараканьнях. Трэба сказаць праўду, што школа іх заслугоўвае. І сапраўды, што могуць даць новага вучню такія «працоўныя працэсы», як падмятаньне і мыцьцё падлогі, нашэньне дроў, вады і інш., калі дзеці ў сябе дома, у сваёй сям'і працу гэту заўсёды выконваюць; вось таму ня толькі бацькі, а і самі вучні глядзяць на такую працу, як на нешта будзённае, звычайнае, як на нешта зусім непатрэбнае ў школе. Вось пагэтаму насельніцтва проціў такіх «працоўных працэсаў» у школе.

Што-ж ёсьць працоўныя працэсы, як іх разумець і што яны азначаюць? А яны азначаюць тое, што занняткі ў школе трэба паставіць так, каб патрэбныя веды дзеці набылі ня толькі з кнігі або з гутаркі настаўніка, а і з тае працы, якую яны будуць выконваць у школе сваімі рукамі, прычым павінны мы цьвёрда помніць, што ў школу трэба ўводзіць толькі такую ручную працу, якая была-б цесна зьвязана з навукаю і якую можна было-б асьвятляць з навуковага пункту погляду. Трэба ўводзіць у школе такія працоўныя працэсы, якія выцiснулі-б са школы «кніжнасьць».

Якім-жа чынам дасягнуць усяго гэтага? А ўсяго гэтага дасягнем мы тады, калі выйдзем са школы на гарод, у сад, на пасеку, у поле і г. д. Тут у нас будзе вывучацца і геамэтрыя (вядома, практычна, а не па кнізе), і матэматыка, і прыродазнаўства, і фізычная праца, і ўсё што хочаш. Такі мэтад занняткаў то на школьным вучастку, то ў школе асьвяжае дзяцей, а чаргаваньне рэзумовай працы з фізычнаю і набыцьцё навуковых ведаў праз працу ўзмацняе і паглыбляе цікавасьць, а таксама разьвівае любасьць і прывычку да працы.

Здабытыя такім чынам практычныя навуковыя веды вучань зможа карыстацца у сваім штодзённым жыцьці.

**Антон Лёсік.**

# Асьветнае краязнаўства.

Тэрмін «асьветнае» мы высоўваем затым, што разуменьне «школьнае» для данага стану справы не ахоплівае патрэбнага зьместу. Школьнае краязнаўства—гэта тое, што праводзіцца школаю; асьветнае—усімі ўстановамі народнае асьветы—дашкольнымі, школьнымі, прафасьветнымі і палітычна-асьветнымі. Такім чынам, школьнае краязнаўства зьяўляецца часткаю агульнага, асьветнага.

Ва ўсіх нашых школах выкладаньне павінна весьціся згодна прынцыпаў: ад блізкага да далёкага, ад знаёмага да незнаёмага, ад данага запасу ўспрыйманьняў і ведаў вучня да ўскладаньня, паглыбленьня і пашырэньня яго сьветапагляду. Затым у дашкольных установах, пачатковых, першым канцэнтры сямігадовых, для малапісьменных і інш. школах зьместам працы павінна быць акаляючае жыцьцё, якое паступова пашырае свае межы да сусьветнага жыцьця ў вышэйшых тыпах школ, але і ў іх захоўвае параўнаньне з акаляючым жыцьцём. Гэта-ж патрабуе і найноўшая пэдагогіка і ўрадавыя праграмы.

Значыць, уся праца дашкольных установ і школ па пазнаньні законаў жыцьця і спосабаў іх скарыстаньня павінна праводзіцца на мясцовым матар'яле.

Калі ў агульным краязнаўстве важны вынікі працы, дык у школьным—сама праца, працэс, развой яе; школа мае мэтаю ня даць вынікі вывучэньня краю, а навучыць дзяцей тварыць жыцьцё на працы, на вывучэньні гэтага жыцьця ў акаляючых умовах. Гэты працэс працы школы, як вядома, цягнецца праз усе гады, і затым матар'ялы атрымліваюцца ўсё новыя і новыя, бягучыя, тады, як у музэях, напрыклад, яны больш-менш сталыя.

Клюбы, народныя дамы, хаты-чытальні і г. д. у дасягненьні свае асноўнае мэты—прыцягненьня шырокіх гушчаў працоўных да савецкага будаўніцтва праз павышэньне іх культурнага ўзроўню і г. д.—таксама павінны грунтаваць сваю працу на акаляючым жыцьці. Канкрэтнае мысьленьне селяніна ня можа абхапіць тыя ці іншыя адцягненыя разуменьні, пытаньні, ня зьвязаныя непасрэдна з яго асобаю, жыцьцём без параўнаньня з блізкім і знаёмым, без сувязі з яго (селяніна, работніка) уласнымі інтарэсамі і да т. п. Плякаты, дыяграмы і інш. з мясцовай вытворчасьці жыцьця, а не ўсясьветнага без параўнаньня з мясцовым; насьценныя райённыя, акруговыя газэты, адбіваючыя мясцовае жыцьцё, навіны сьвету без зьвязаньня з дадзеным краем; музэй мясцовых грунтаў, расьлін і інш.—усё гэта павінна быць выходным пунктам працы з селянінам і работнікам. Яны шмат ведаюць і ня трэба іх навучаць, а ўсьвядоміць, сыстэматызаваць, пашырыць і паглыбіць іх веды. Значыць, таксама, як і ў школе, трэба выходзіць з таго, што складае інтэлект селяніна і работніка. Але, затое, тут мае большае значэньне ня толькі праца, але і вынікі яе.

Такім чынам, асьветнае краязнаўства мае мэтаю адно адукацыйнае і выхаваўчае значэньне яго, але яно ня можа дасягнуць сваіх мэтаў бяз сувязі з навуковым і грамадзкім. Адтуль яно павінна атрымліваць вывады, падагуленьні і г. д., каб не паўтараць часамі працы папярэднікаў (асабліва гэта важна для настаўнікаў, загадчыкаў і г. д.), а грамадзкія і навуковыя краязнаўчыя інструкцыі ня могуць не скарыстаць нагляданьняў і інш. матар'ялаў асьветных установ.

**М. І. Касьпяровіч.**

# Аб зьменах у праграмах І-га і ІІ-га канцэнтраў сямігадовай школы.

Навукова-Мэтадалёгічны Камітэт НКА БССР па прыкладу папярэдніх гадоў правёў у гэтым годзе падагульненьне заўваг настаўніцтва адносна нашых праграм.

Тыя матар'ялы, якія былі прысланы ў НМК, асабліва рэзалюцыі канфэрэнцыяў Менскай акругі і артыкулы па праграмных пытаньнях, якія былі зьмешчаны ў газэце „Савецкая Беларусь“ на „Староніцы асьветніка“, далі магчымасьць зрабіць вывады аб праграмах і ўнесьці ў іх неабходныя карэктывы на наступны навучальны год.

У асноўным праграмы як першага, так і другога канцэнтраў засталіся непарушанымі. Унесены толькі невялічкія скарачэньні. У першым канцэнтры гэтыя скарачэньні датычацца ў III годзе навучаньня комплексу «Беларусь» і ў IV годзе навучаньня комплексу «СССР».

У другім канцэнтры скарочана дэталізацыя некаторых пытаньняў па грамадазнаўству, па матэматыцы і шырэй высунуты ў праграме грамадазнаўства антырэлігійныя пытаньні, пытаньні калектывізацыі сельскай гаспадаркі і пытаньні ваенізацыі, а таксама ў праграму хэміі ўпесены элемэнты вайсковай хэміі.

Прымаючы пад увагу, што праграма І-га канцэнтру зараз ня будзе перадрукоўвацца, ніжэй пералічваюцца ўсе тыя зьмены, якія ўнесены ў праграму ІІІ-га і ІУ-га году навучаньня:

1. У праграме для ІІІ году навучаньня з комплексу «Беларусь» выкінуты наступныя словы і сказы:

а) На староніцы 41—«і лёсавы», «пласты пылу-лёсавага», «Пагаварыць аб ледавіковым пэрыядзе гісторыі зямлі, аб руху ледавіка, марэне», „Лёсавы“.

б) На староніцы 42—„Балотныя жалезныя руды і іх распрацоўка ў мінулым (Савецкі—груды шлякаў у глухіх кутках Беларусі)“, „Фасфарыты“.

в) На староніцы 45—«Стан сярніковай прамысловасьці да вайны і раёны яе пашырэньня». «Аб'яднаньне прамысловасьці ў трэст». «Наша гарбарная прамысловаць да вайны. Раёны яе пашырэньня. Аб'яднаньне ў дзяржаўны скураны трэст». «Абазначыць на карце цэнтры гарбарнай прамысловасьці».

г) На староніцы 46 замест сказаў—«Утварэньне Беларуска-Літоўскае дзяржавы. Беларусь пад Польшчаю. Беларусь пад уладаю расейскіх манархаў»—пастаўлены наступныя сказы: «Як жылося беларусам пад Польшчаю і пад уладаю расейскіх манархаў».

2. З аб'ёму ведаў па расейскай мове ў III годзе навучаньня выкінута марфалёгія.

3. У аб'ём ведаў па матэматыцы ў III годзе навучаньня дадзена заўвага, што ў мэтах прапэдэўтыкі да дзесятковых дробаў у ІІІ годзе навучаньня неабходна пашырыць вывучэньне доляў простых дробаў.

4. У праграме для ІУ году навучаньня выкінуты наступныя словы і сказы:

а) На староніцы 54—«Аб майскай забастоўцы ў Англіі». „Растлумачыць ленінскую формулу: прафсаюзы—школа камунізму“. „Міжнароднае аб'яднаньне рэвалюцыйных рабочых (Інтэрнацыянал)“. «Гісторыя Інтэрнацыяналу». «Аб'яднаньне саюзаў усяго сьвету. Амстэрдамскі Інтэрнацыянал «жоўтых» прафсаюзаў і пад чыім уплывам ён знаходзіцца“. «Увага: «Усе гэтыя пытаньні высьвятляюца пры чынай дапамозе мясцовай камуністычнай ячэйкі». Замест слоў: «Гісторыя 1-га мая» і „Гісторыя Парыскае Камуны» пастаўлены словы «1-ае мая» і „Парыская Камуна“;

б) На староніцы 58 выкінуты—(«Ночнае асьвятленьне культуур у Амэрыцы»). «Раёны прамысловага садоўніцтва СССР». „Раёны разьвядзеньня вінаграду і вырабу віна“, «Справа гародніцтва і садоўніцтва ў замежных краёх». „Буйнае быдла малочнае і нарэзь і раёны яе гадоўлі. Гадоўля коняй, авечак, сьвіней. Гадоўля птушак. справа жывёлагадоўлі ў замежных краёх“.

Выкінута заданьне 1 цалкам і сказы, «Як высока ў нас стаіць справа гадоўлі пчол». «Як гэта справа пастаўлена ў Заходняй Эўропе і Злучаных штатах». «Нашага і Заграмічнага».

Пасьля слоў: «Як стаіць справа з гэтаю галінаю с. г. у замежных краёх»—дададзены словы: «У Нямеччыне і Даніі».

в) На староніцы 59 выкінуты—„Сыстэма лясной гаспадаркі. Лясная гаспадарка ў іншых краёх». «Рыбная гаспадарка ў іншых краёх». „Заданьне 1. Пабудаваць дыяграму (картаграму) сусьветнага ўлову рыбы“. «Зьвералоўства і зьвераводзтва ў іншых краёх» «Драпежная лоўля марскога зьвера і рыбы ў саюзных водах чужаземцам“. „Стан каменнавугальнай прамысловасьці замежамі» «і ў галоўных замежных краёх, б) падушнага спажываньня ў ССС і замежамі“. «Заданьне 2. Папоўніць музэй узорамі каменага вугалю і ўзорамі прадуктаў хімічнай апрацоўкі яго». «Нафтавыя багацьці ў іншых дзяржавах», „і ў іншых краёх“.

г) На староніцы 60 выкінуты—«Папоўніць музэі ўзорамі прадуктаў нафтавай перапрацоўкі“. «Соль каменая, самаасадкавая і вываркова“. «Здабыча солі ў іншых краёх». «Пабудаваць дыяграму здабычы солі ў розных краёх». «Саюз вугалю і чыгуну». „Пабудаваць дыяграмы: а) выплаўкі чугуну ў важнейшых замежных краёх, б) спажываньня на 1 чалавека чыгуну ў розных краёх“. «Чым выклікана ў СССР буйнае разьвіцьцё саматужнай прамысловасьці і рамяства. Важнейшыя раёны саматужнай прамысловасьці ў цэнтральных раёнах РСФСР“. «Фабрычна-заводзкая прамысловасьць. Заняпад б. расейскай прамысловасьці...» і да канца абзаца. «Чаму так пашырана ўсюды баваўняная прамысловасьць“. Высокая якасьць баваўняных вырабаў СССР. Канкурэнцыя з ангельскімі, апрацоўка воўны. Якасьць суконных вырабаў СССР у параўнаньні з ангельскімі. Ткацкая прамысловасьць у замежных краёх». „Раён паравых млыноў. Алейная прамысловасьць“. „Цукравая палітыка царскага ўраду. (Растлумачыць такое агіднае зьявішча, што нашым цукрам ангельцы адкармлівалі сьвіней) тым часам, як наша сялянства і ў вочы не бачыла цукру)“. „Броварная прамысловасьць»... да канца абзацу.

У заданьні: «Адзначыць на карце раёны саматужнай прамысловасьці» дададзена слова: «важнейшыя».

д) На староніцы 61-й выкінуты—«і замежамі яго, б) падушнага спажываньня цукру ў розных краёх». «Папоўніць музэй экспанатамі харчавой вытворчасьці». «Адзначыць на карце раёны харчовай прамысловасьці». «Якасьць с.-г. машын СССР. Месца мэталёвай прамысловасьці ў пляне індустрыялізацыі краю». „Якія тавары складалі замежны вываз» і да канца абзацу. «Ранейшы ўвоз у б. Расею, адкуль мы ўвозілі тавары. Сучасны ўвоз у СССР» „Злучаючы ўсё чалавецтва ў адну вялікую сямяю». «Становішча грунтавых шляхоў у СССР, ступень забясьпечанасьці тэрыторыі шосавымі дарогамі“. «Да вайны і пасьля вайны». «Чыгуначная сетка СССР». «Як наступова ўдасканальвалася паштовая справа: сучаснае яе становішча“. «Абслужваньне поштаю вясковага насельніцтва (кальцовая пошта)“.

Пасьля абзаца аб чугунках дададзены словы: „Галоўныя магістралі СССР“.

е) На староніцы 62 выкінуты: «Гісторыя тэлеграфнай справы» , «Слабая абслужанасьць тэлефонамі насельніцтва саюзу». «Яго значэньне». „Радыё-тэлефон і яго значэньне“.

Пасьля слова электрыфікацыя“ дададзена слова: „і індустрыялізацыя“.

ж) На староніцы 64 выкінуты: «Гадоўля кампоснага гною». «Якія расьліны патрабуюць угнаеньня фосфарнага, якія любяць калійнае, якія азотнае». «Запрасіць на свае сенажаці агранома і парадзіцца з ім, як іх можна палепшыць».

Што датычыць праграм 2 кан., дык яны друкуюцца поўнасьцю ў асобным зборніку, які выйдзе ў пачатку верасьня г. г.

Навуковы сэкратар НМК.

**Сьцепановіч.**

# *Наша перапіска.*

**Косьценічу. Мілаславічы.** У сваіх «Нататках» вы зблыталі два пытаньні: пытаньні грамадзкай працы настаўніка і справу культурнай вопытна-паказальнай працы школы. Ніхто не адхіляе вялікай каштоўнасьці прапаганды садоўніцтва або правільнага дагляду жывёлы, але нельга гэтай працай школы падмяняць пытаньне аб грамадзкай працы настаўніка.

**Турэцкай. Заслаўе.** „Вясковае настаўніцтва ў шэрагі БДУ“ друкавацца ня будзе. У гэтым допісе няма нічога канкрэтнага.

**Выхаванцам. Чырвона-Бярэжскі агратэхнікум.** Ваш допіс „Чырвона-Бярэжскі гэрой“ пераслалі ў Наркамасьветы для расьсьледваньня. Аб выніках паведамім.

**Я. Савіцкаму. Бабруйшчына.** «Норавы дырэктара» таксама пераслалі ў Наркамасьветы дзеля расьсьледваньня. Аб выніках паведамім.

**Настаўніку Б. Ржавуцкаму. Барысаўшчына.** «Аб укамплектаваньні вучнямі вясковых школ» друкавацца ня будзе: трэба лепш апрацоўваць свае допісы.

**Т. Маркаву. Гомельшчына.** Нельга зразумець—ці ваш аутыкул «Жывы куток у вясковай школе» малюэ ваш «трохгадовы вопыт», ці гэта простыя разважаньні аб арганізацыі прыродазнаўчага кутка ў школе. Так ці інакш, але свае матар'ялы трэба лепш апрацоўваць і пісаць больш выразна, бо рэдакцыя ня мае магчымасьці апрацоўваць чарнавыя нататкі.

**М. Гутаравай-сьвістак. Шклоў.** На вашай заяве ў рэдакцыю „Савецкай Беларусі“ Магілеўская акр. пракуратура ўзьняла сьледзтва наконт ганеньняў на вас з боку гр. Львовіча. Аднак, ніякіх прасьледваньняў вас пракуратура ня выявіла, і справа спыняецца. Наконт вашага пераводу на вёску Магілеўскае акр. аддзяленьне саюзу паслала запрос раённаму МК—на якой падставе вас пераводзяць без пагодджаньня гэтага пытаньня з акр. інспэктарам і акр. аддз. саюзу. Аб выніках паведамім асобна.

1-я друкарня „БДВ“.

Галоўлітбел. № 302